# Голас Радзімы

№ 38 (2180)
20 верасня 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.




Юбілей Францыска Скарыны стаў вялікім усенародным святам у Беларусі. Урачыстасці, якія пачаліся ў Мінску, прадоўжыліся на радзіме нашага славутага земляка—у Полацку. На свята да нас прыехалі госці з Канады, Англіі, Польшчы, Балгарыі, Чэхаславакіі, ФРГ, Італіі, Югаславіі, з усіх саюзных рэспублік. Але рамкамі Мінска і Полацка свята не абмежавалася. Юбілей адзначала ўся рэспубліка. У гарадах і пасёлках прайшлі фестывалі народнай творчасці, мастацкія выстаўкі і выстаўкі кніг, сустрэчы з пісьменнікамі і артыстамі.

Неўзабаве адбудзецца ўрачыстасць і ў Парыжы, у штаб-кватэры ЮНЕСКА. Туды адправіцца афіцыйная дэлегацыя, выступіць ансамбль народнай музыкі «Жывіца», будзе дэманстравацца выстаўка «Скарына і яго эпоха», выстаўка скарынінскіх кніг і выданняў пра яго. Завершыцца святкаванне 500-годдзя з дня нараджэння вялікага сына Беларусі на Генеральнай Асамблеі ААН у Нью-Йорку.

(Чытайце на 6-й старонцы матэрыял пра ўрачыстасці, што адбыліся ў Полацку).









ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ

## «БАЦЬКАЎШЧЫНА»

Адбылася ўстаноўчая канферэнцыя згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына». У ёй прынялі ўдзел не толькі беларусы з самой Беларусі, а і з рэспублік СССР Літвы, Латвіі, Эстоніі, Расіі, Украіны, прыехалі суайчыннікі з Англіі, Канады, Польшчы.

Устаноўчая канферэнцыя прыняла статут згуртавання «Бацькаўшчына». Старшынёй рады быў выбраны народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў. Аднак арганізацыйная работа яшчэ не завершана. Справа ў тым, што «Бацькаўшчына» можа сапраўды лічыцца таварыствам беларусаў з усяго свету толькі пасля правядзення кангрэса, у якім прынялі б удзел прадстаўнікі ўсёй беларускай дыяспары.

Фундатарамі-заснавальнікамі «Бацькаўшчыны» выступілі АН БССР, БДУ імя У. І. Леніна, Беларускі фонд культуры, Саюз пісьменнікаў БССР, газета «Літаратура і мастацтва», Саюз кааператараў Беларусі, вытворчае аб'яднанне «БелаўтаМАЗ» і іншыя — усяго 15 устаноў, аб'яднанняў і арганізацый.

ПРАЦАЎЛАДКАВАННЕ

## «КІРМАШ ВАКАНСІЙ»

«Кірмаш вакансій», упершыню праведзены ў Мінску, некаторыя журналісты паспяшаліся назваць біржай. Але ж апошняя павінна мець, як мінімум, наяўнасць «рынку» рабочых рук — іх лішак. Мяркуючы па колькасці прысутных у Доме культуры чыгуначнікаў работадаўцаў — ад аэрапорта Мінск-2 да медыцынскіх устаноў — сітуацыя цяпер адваротная. Колькасць вакансій у больш чым паўтарамільённым горадзе складае 19 тысяч. Словам, пакуль што «прадаюцца» не рабочыя рукі, а месцы.

Але калі попыт на класных рабочых яшчэ вялікі, то інжынерам і кіраўнікам рознага ўзроўню ўжо цяпер знайсці месца няпроста. Колькасць незанятых у рэспубліцы перавышае калькасць вакансій на 27 тысяч. Строга кажучы, менавіта для стольких нашых землякоў работы проста няма.

Занятасцю цяпер распараджаецца Рэспубліканскі цэнтр па працаўладкаванню, перанавучанню і прафарыентацыі насельніцтва, куды і паступаюць даныя аб жадаючых знайсці работу. Але даныя гэтыя даволі ўмоўныя: далёка не ўсе часова не працуючыя паведамляюць аб гэтым у цэнтр, лічачы за лепшае шукаць месца з дапамогай знаёмых. Ды і які сэнс рэгістравацца ў якасці беспрацоўнага, калі ніякіх сацыяльных гарантый чалавек у гэтым выпадку не атрымае. Больш таго — у краіне не вызначаны статус беспрацоўнага. Асновы заканадаўства Саюза ССР і саюзных рэспублік аб занятасці насельніцтва існуюць яшчэ толькі ў праекце. Але і гэты дакумент выкарыстоўвае абцякальную фармулёўку — «часова незаняты» работнік.

У бліжэйшы час, несумненна, становішча з занятасцю абвострыцца. Залежыць гэта будзе, у прыватнасці, ад варыянта пераходу да рынку, які прыме саюзны ўрад. Але нават па асцярожных падліках спецыялістаў, у 1991 годзе колькасць незанятых можа скласці амаль чвэрць мільёна чалавек.

ПРЫЗНАННЕ

## КАПЭЛЕ БІСІРУЮЦЬ ЗА МЯЖОЙ

З вялікім поспехам прайшлі першыя зарубежныя гастролі Дзяржаўнай акадэмічнай капэлы БССР імя Р. Шырмы. Нядаўна калектыў разам з галоўным аркестрам рэспублікі і Мінскім дзіцячым хорам вярнуўся з ФРГ, дзе ўдзельнічаў у двух міжнародных творчых фестывалях — «Каталонскае лета ў Гамбургу» і «Музычныя дні ў Кафедральным саборы горада Шпаера». Па заслугах ацаніўшы майстэрства нашых артыстаў, арганізатары гэтых канцэртаў запрасілі капэлу ў ФРГ і Іспанію для паўторнага выканання складанейшага твора «Чырвоная кніга» сучаснага каталонскага кампазітара Бенгерэля, а таксама славянскай духоўнай музыкі. Дасягнута папярэдняя дагаворанасць і з Міжнародным цэнтрам па культурных сувязях Мексікі аб паездцы ў гэту і іншыя краіны Лацінскай Амерыкі.

*«Напярэдадні напісання новай «Гісторыі Беларускай літаратуры» няўвага беларускіх савецкіх літаратуразнаўцаў да мастацкіх твораў пісьменнікаў-эмігрантаў пагражала б ранейшым падрывам прынцыпу навуковасці, вяла б да здрады дэмакратычным ідэалам перабудовы. А гэтага дапусціць нельга.*

*Так, сярод замежных беларускіх пісьменнікаў ёсць людзі са складанымі палітычнымі лёсамі, але гэта акалічнасць не павінна варожа адхіляць ад іх творчасці, якая таксама з'яўляецца часткай духоўнага жыцця беларускага народа. Акрамя таго, час пачаць улічваць, што зламанасць лёсаў многіх з іх адбылася далёка не заўсёды па іх уласнай волі. Творчасць эмігрантаў-пісьменнікаў безумоўна патрабуе аб'ектыўнага вывучэння, нескажонай ацэнкі. На фоне сучаснай замежнай беларускай літаратуры асабліва прыкметныя фігуры Н. Арсеньевай і М. Сяднёва. Не толькі па абавязку прафесійнага доўгу, але і па загаду сацыялістычных светапоглядных перакананняў, што прызнаюць прынцып сапраўднага гістарызму, мы павінны імкнуцца да аб'ектыўнай паўнаты ўзнаўлення ўсёй духоўнай спадчыны, якая маецца ў гістарычным распараджэнні беларускага народа».*

*(Віктар КАВАЛЕНКА, дырэктар Інстытута літаратуры АН БССР).*

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

У Мінску выйшаў першы нумар часопіса «Унія». Выдае яго суполка грэка-католікаў, зарэгістраваная пры Таварыстве беларускай мовы. Апрача Мінска, суполка уніятаў узнікла і ў Гомелі.

І для кіраўнікоў, і для рабочых Шацкага механічнага завода, што ў Мінскай вобласці, адпачываць за мяжой — не навіна. 45 чалавек ужо пабывалі на курортах Балгарыі, і яшчэ 15 паедуць туды неўзабаве. Адпачываць за мяжой выпраўляюцца звычайна сем'ямі, пры гэтым палавіну кошту пуцёўкі аплачвае прадпрыемства.

Савет Міністраў Беларускай ССР прыняў пастанову «Аб увекавечанні памяці Яўгеніі Янішчыц». Паэтэсе, чыя творчасць сагравала сэрцы беларусаў і трывожыла іх думкі і якая так заўчасна адышла ад нас, на яе магіле будзе ўстаноўлены помнік. А Саюз пісьменнікаў і Дзяржаўны камітэт па друку выпусцяць збор твораў Я. Янішчыц.

У вёсцы Цырын Карэліцкага раёна адбудавана царква, якая была спалена ў час Вялікай Айчыннай вайны. За апошнія два гады на Гродзеншчыне веруючым вернута 68 храмаў, а яшчэ 9 будуюцца.

«Гэта — Італія», так назваў выстаўку сваіх работ, якая дэманструецца ў фае сталічнага кінатэатра «Кастрычнік», фотажурналіст Юрый Іваноў.

У экспазіцыі прадстаўлена каля 100 здымкаў, якія дазваляюць гледачам даведацца аб жыцці, быце жыхароў далёкай краіны, знаёміць з цудоўнымі краявідамі Італіі.

НАТАТКІ КАМЕНТАТАРА

## НАДЗЕІ НА «ЦУД»

Здаецца, прэзідэнцкі Указ «Аб новых падыходах да вырашэння жыллёвай праблемы ў краіне...», прыняты ў маі гэтага года, чакае той жа лёс, што і ўрадавую пастанову аб продажы ў асабістую ўласнасць дамоў і кватэр, якія арандуюць савецкія людзі ў дзяржавы. Крыху больш чым праз год пасля апублікавання яго толькі нямногія выказалі жаданне стаць уласнікамі квадратных метраў, што належаць дзяржаве. У любым савецкім горадзе — Маскве ці Мінску або Ленінградзе, Брэсце такіх «ахвотнікаў» можна пералічыць па пальцах.

Зрэшты, з самага пачатку было ясна, што з распродажам у дзяржавы нічога не атрымаецца. Трэба вельмі дрэнна ведаць псіхалогію радавога савецкага кватэранаймальніка, каб разлічваць на яго зберажэнні ў справе, выгада ад якой зусім няясная. І сапраўды, які сэнс выкупляць тое, што і так яму належыць. Няхай не на правах асабістай уласнасці, а ўсяго толькі ў форме арэнды, але затое — якой. Вечнай, з правам наследавання, ды яшчэ да таго ж, калі мець на ўвазе аплату, вельмі выгаднай. Калі цяпер сям'я, якая арандуе ў дзяржавы жыллё, плаціць за яго прыкладна трэць таго, у што абыходзіцца дзяржаве яго ўтрыманне, то пасля выкупу ёй давялося б пакрыць усе расходы ў сувязі з гэтым ды яшчэ да таго ж аплачваць і капітальны рамонт.

Як бачым, прычыны, што выклікалі вельмі спакойныя адносіны савецкіх людзей да распродажу дзяржаўнага жылля, больш чым грунтоўныя.

Але пры чым тут Указ Прэзідэнта? А пры тым, што і ў ім, няхай фрагментарна, але ўсё ж прысутнічае надзея, што савецкія людзі яшчэ раз аплацяць тое, што імі ўжо даўно і, магчыма, неаднаразова аплачана. Бо калі разабрацца, то сродкі, што ўкладваюцца дзяржавай у жыллёвую праграму (прыкладна 35 мільярдаў рублёў), на ўтрыманне жылля (каля 11 мільярдаў), гэта — грошы, недаплачаныя савецкаму кватэранаймальніку за яго працу.

І ўсё ж, думаецца, што прэзідэнцкі Указ «буксуе» не столькі таму, што распродаж дзяржаўнага жылля не карыстаецца папулярнасцю ў народзе, колькі па іншых прычынах. Галоўная з іх заключаецца ў тым, што Указ «запушчаны ў вытворчасць» у крайне неспрыяльны і для прэзідэнцкай, і для выканаўчай улады час. У краіне, у яе эканоміцы, ранейшая камандна-адміністрацыйная сістэма кіравання практычна выключылася з работы, а новая, заснаваная на эканамічных метадах, яшчэ не склалася.

Разам з тым, калі адысці ад славутага распродажу жылля, Указ змяшчае цэлы шэраг прынцыпова новых палажэнняў, такіх, як структурнае пераўтварэнне галіны, што абяцае прыярытэт у інвестыцыйным і матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні праграмам грамадзянскага будаўніцтва, і ў першую чаргу жыллёвай, як шырокае, без усялякіх абмежаванняў, прыцягненне да фінансавання жыллёвай праграмы свабодных сродкаў прадпрыемстваў і арганізацый, кааператываў, акцыянерных таварыстваў, асабістых зберажэнняў грамадзян пры максімальна магчымай падтрымцы з боку пазыковага фонду дзяржавы.

Заслугоўвае напамінку і праграма індывідуальнага жыллёвага будаўніцтва, што прадстаўлена ва Указе, якая, як вядома, раней не карысталася прыхільнасцю дзяржавы. З гэтага моманту яна становіцца адным з асноўных напрамкаў вырашэння жыллёвай праблемы ў краіне. Ва Указе гаворыцца: здзейсніць рэзкі паварот домабудаўнічай індустрыі да індывідуальнага жыллёвага будаўніцтва, зжыць негатыўныя адносіны да яго, пераадолець запушчанасць у гэтай справе, усяляк заахвочваць ініцыятыву кожнага, хто імкнецца пабудаваць свой дом. З гэтай мэтай у вёсках, гарадах і прыгарадах бесперашкодна адводзіць зямельныя ўчасткі з прадастаўленнем грамадзянам права валодання імі аж да перадачы ў спадчыну.

Прынцыпова важным момантам у практыцы вырашэння жыллёвай праблемы з'яўляецца і афіцыйна дазволены рынак жылля. У адпаведнасці з Указам, купіць ці прадаць жыллё можна будзе цяпер без удзелу дзяржавы, як пасрэдніка гандлёвага абмену, і па цане, якая складваецца ў выніку попыту і прапановы.

Прыцягвае і прадастаўленае Указам права абмену дзяржаўнага жылля на індывідуальнае, чаго раней не дапускалася. Засмучае перспектыва пераводу камунальнай службы савецкіх гарадоў на камерцыйную аснову, што, несумненна, абернецца падаражаннем як паслуг, так і кватэрнай платы.

Указ, канстатуючы крайне абвостраную патрэбу ў жыллі (чарга на паляпшэнне дасягнула 14 мільёнаў сямей, з якіх звыш 6 мільёнаў пражываюць у камунальных кватэрах, 4,5 мільёна — ва ўмовах, якія не адпавядаюць элементарным санітарным нормам), патрабуе падвоіць тэмпы жыллёвага будаўніцтва з такім разлікам, каб ужо ў 1991 годзе выйсці на ўзровень 155—160 мільёнаў квадратных метраў карыснай плошчы ў год (цяпер штогод будуецца ў сярэднім 127 мільёнаў квадратных метраў), а з 1995 года — 230—240 мільёнаў. Пры такім паскарэнні, робіцца вывад ў прэзідэнцкім Указе, можна будзе рэальна разлічваць на забеспячэнне да 2000 года кожнай сям'і, уключаючы і адзінокіх, асобнай кватэрай ці домам.

Усё гэта добра, але нерэальна. Падобныя тэмпы не па сіле цяперашняй, цалкам разбалансаванай савецкай эканоміцы, разладжанаму жыллёваму комплексу. Хіба што цуд можа дапамагчы ўраду справіцца з гэтай задачай, якую ставіць перад ім прэзідэнцкі Указ. Асабіста я спадзяюся толькі на яго, гэта значыць на «цуд», маючы на ўвазе зусім не боскую ласку, дадзеную людзям у выглядзе манны нябеснай, а рынак і рыначныя адносіны, на якія савецкая эканоміка пераходзіць з першых дзён 1991 года. Калі ўсё адбудзецца так, як задумана, калі рыначныя адносіны запрацуюць, то праблема жылля ў краіне будзе, упэўнены, вырашана ў тыя тэрміны і на тым узроўні, якія прадпісвае прэзідэнцкі Указ.

**Аляксандр ДЗЕДУЛ.**

СУДОВАЯ СПРАВА





**У ноч з 8 на 9 чэрвеня пасля сваркі з бацькам 17-гадовы студэнт Жодзінскага політэхнічнага тэхнікума Д. Сямёнаў, пагражаючы ўзарваць самалёт, які ляцеў па маршруту Мінск—Мурманск, прымусіў экіпаж змяніць курс і прызямліцца ў Стакгольме.**

**Д. Сямёнаў быў перададзены савецкім уладам па рашэнню шведскага ўрада. Экспертыза шведскіх псіхіятраў не выявіла ў Сямёнава ніякіх псіхічных адхіленняў. Не пацвярджаюцца і палітычныя матывы ўгону самалёта. Пяццю гадамі пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму абярнуўся неабдуманы ўчынак 17-гадоваму студэнту Жодзінскага політэхнічнага тэхнікума Дзмітрыю Сямёнаву.**

**НА ЗДЫМКАХ: у зале суда; вось так хутка адправіцца асуджаны Д. СЯМЁНАЎ да месца пазбаўлення волі.**

## МЕРКАВАННЕ ДЭПУТАТА

# ЦІ ДОЎГА ЯШЧЭ ЧАКАЦЬ?

*Народны дэпутат ад Беларусі ў савецкім парламенце, мінчанін, інжынер, член міжрэгіянальнай дэпутацкай групы А. Дабравольскі рэгулярна сустракаецца са сваімі выбаршчыкамі. На адной з такіх сустрэч пабываў журналіст Міхась СТЭЛЬМАК. Ён прапануе своеасаблівую справаздачу той гутаркі. На пытанні адказвае Аляксандр ДАБРАВОЛЬСКІ.*

**— Вышэйшым органам улады краіны з'яўляецца З'езд народных дэпутатаў СССР. Аднак у грамадскай думцы спеюць перакананні аб яго немэтазгоднасці. Ці падзяляеце вы іх?**

— Падзяляю. Прайшоўшыя тры з'езды засведчылі пэўную бесперспектыўнасць такога органа. З майго пункту гледжання, пасяджэнні двухтысячнага дэпутацкага корпуса недзеяздольныя для належнага абмеркавання і прыняцця важных рашэнняў. Узяць хаця б пытанне аб прэзідэнцтве ў СССР. Яно было вырашана так, як хацелася апарату, некаторым прадстаўнікам вышэйшага кіраўніцтва краіны. Многія народныя дэпутаты ад Беларусі мелі іншыя думкі па гэтаму пытанню, аб чым і было дaручана выказацца мне ад іх імя на 3-м З'ездзе. У агульным спісе выступаючых я ішоў дваццаць другім. Нумарам што другім быў пазначаны ў спісе Старшыня Вярхоўнага Савета БССР М. Дземянцей. У выніку апошняму прадаставілі слова, мяне ж, невядома па якіх прычынах, выкраслілі са спісу. У сувязі з гэтым ад вялікай групы беларускіх дэпутатаў, у склад якіх уваходзіў і цяперашні першы намеснік кіраўніка рэспубліканскага парламента С. Шушкевіч, была падрыхтавана заява-пратэст, уручаная мной асабіста Міхаілу Гарбачову.

**— Што, па-вашаму, уяўляе сабой вядомая дэпутацкая група «Саюз»?**

— Ад ініцыятараў стварэння гэтай групы кожны народны дэпутат СССР атрымаў прапанову ўступіць у яе. У тым ліку і я. Група адстойвае федэратыўны прынцып пабудовы Савецкай дзяржавы. Аднак цэласнай канцэпцыі свайго бачання існавання СССР у перспектыве яна накуль што, лічу, не прадставіла. А вось другая дэпутацкая група, міжрэгіянальная, у якую ўваходжу і я, актыўна займаецца распрацоўкай праекта новага дагавора паміж цяперашнімі саюзнымі рэспублікамі.

**— Чым асабіста вы займаецеся ў вышэйшым органе ўлады краіны?**

— Я член Камісіі Вярхоўнага Савета СССР па пытаннях развіцця прамысловасці, энергетыкі і тэхналогіі. У яе складзе ўдзельнічаў у распрацоўцы многіх законапраектаў, якія затым былі адобраны парламентам краіны. У прыватнасці, гэта датычыцца і такіх шырока вядомых сёння законаў аб зямлі і ўласнасці. Як член рабочай групы названай камісіі, зараз актыўна займаюся стварэннем праекта закона аб абароне правоў спажыўцоў.

**— Ці можна сказаць, што ўлада ў СССР ужо сёння належыць Саветам?**

— Мне здаецца, не. Яна зараз толькі паволі перацякае да іх ад КПСС і выканаўчых органаў. На ўсіх узроўнях. У тым ліку і на самым верхнім. Пра тое, што народныя дэпутаты краіны не ўсё яшчэ і зараз вырашаюць, сведчыць, па-мойму, хаця б такі прыклад. Прэзідэнцкі савет і Саўмін краіны прынялі нядаўна рашэнне аб пераводзе савецкай эканомікі на рыначныя адносіны. Правільнае, трэба сказаць, рашэнне. Але ж я, як прадстаўнік народа ў вышэйшым органе ўлады краіны, ніякіх афіцыйных дакументаў на гэты конт не атрымліваў. Выходзіць, што вышэй названымі органамі проста ігнаруецца дэпутацкая думка.

**— Акрамя заканадаўчай працы ў вышэйшым органе ўлады краіны ў кола абавязкаў народнага дэпутата СССР уваходзіць і дзейнасць у выбарчай акрузе. Што вам удалося зрабіць тут?**

— Прайшоў год з невялікім з дня абрання мяне народным дэпутатам жыхарамі Ленінскага, Кастрычніцкага і Цэнтральнага раёнаў беларускай сталіцы. У акрузе, якую я прадстаўляю ў Маскве, пражывае каля 300 тысяч чалавек. За гэты час праведзена з імі каля 70 сустрэч, атрымана на разгляд амаль пяцьсот зваротаў грамадзян. У асноўным — скаргі. Шчыра кажучы, такога іх патоку я не чакаў. Вядома, далёка не ўсім сваім выбаршчыкам у сілу аб'ектыўных прычын, у першую чаргу, эканамічных, мне ўдалося дапамагчы. Але я разлічваю на станоўчыя зрухі ў гэтым пытанні ўжо ў бліжэйшы час.

**— Якой вы думкі пра новы Вярхоўны Савет БССР?**

— Я добра быў знаёмы з беларускім парламентам мінулага склікання. Прымаў удзел у рабоце практычна ўсіх яго апошніх сесій. Яго дэпутацкі корпус мог бы прыняць, па майму цвёрдаму перакананню, любы закон, які б яму ні прапанавалі. Абсалютная большасць парламентарыяў таго саставу не адпавядала свайму высокаму званню. Адны з-за таго, што глядзелі ў рот кіраўніцтву і не мелі ўласнай думкі. Другія з-за таго, што былі абсалютна не падрыхтаваны да працы ў парламенце.

Што датычыцца цяперашняга Вярхоўнага Савета. Пакуль ён цяжка прадказуемы ў сваіх дзеяннях. І ўсё ж выбранне другой асобай у парламенце прадстаўніка дэмакратычнага блока — С. Шушкевіча абнадзейвае, што ён спраўдзіць чаканні многіх грамадзян рэспублікі, якія жадаюць перамен.

## СУЧАСНАЯ ГАСПАДАРКА



**Толькі нядаўна многія нашы прадпрыемствы і арганізацыі сталі працаваць ва ўмовах самаакупнасці і самафінансавання. У калгасе «XVII партз'езд», што на Магілёўшчыне, першыя элементы гаспадарчага разліку пачалі ўкараняцца каля 30 гадоў назад, калі гаспадарку ўзначаліў Іван Мельнік. Тады старшыні неабходна было знайсці механізм, які б дазволіў узняць прадукцыйнасць працы, прымусіў бы людзей працаваць сумленна, па-гаспадарску ставіцца да калгаснага дабра. І пачаў Іван Ігнатавіч з ліквідацыі ўраўнілаўкі ў аплаце працы, з умацавання дысцыпліны. Не адзін год спатрэбіўся Івану Мельніку, цяпер Герою Сацыялістычнай Працы, каб даказаць правільнасць сваіх дзеянняў. Сёння «XVII партз'езд» — адна з буйнейшых гаспадарак не толькі Магілёўшчыны, але і рэспублікі. У мінулым годзе калгас прадаў дзяржаве сельскагаспадарчай прадукцыі больш чым на 13,5 мільёна рублёў. Прадукцыйнасць працы тут — адна з самых высокіх сярод гаспадарак Беларусі. У «XVII партз'ездзе» вырашылі так: ніводная галіна не павінна быць стратнай. Ужо даўно акупіў сябе свінагадоўчы комплекс на 12 000 галоў, які дае сёння з кожнага рубля затрат 76 капеек прыбытку. З лісіных, норкавых і пясцовых шкурак, што паступаюць з калгаснай звераферамы, майстры швейнага цэха шыюць такія шапкі і паўкажушкі, якія наўрад ці залежаліся б на прылаўках любога магазіна. Ад іх продажу гаспадарка штогод атрымлівае каля мільёна рублёў.**

**НА ЗДЫМКАХ: агульны выгляд цэнтральнай сядзібы—Аўсянкі; старшыня калгаса «XVII партз'езд» Герой Сацыялістычнай Працы Іван МЕЛЬНІК; адзін з вырабаў швейнага цэха калгаса дэманструе кушнер-раскройшчык Таццяна ІВАНОВА**

**Фота У. ВІТЧАНКІ і С. ЖАЛУДОВІЧА.**





## «ХТО ЁСЦЬ ХТО Ў СУСВЕТНАЙ ПАЛІТЫЦЫ»

# ЗВЫШ 1500 САМЫХ ПАПУЛЯРНЫХ ІМЁНАЎ

Ці ведаеце вы, што Міхаіл Гарбачоў нарадзіўся ў сялянскай сям'і і сваю працоўную дзейнасць пачаў у 15 гадоў механізатарам машынна-трактарнай станцыі? Што ён мае дзве вышэйшыя адукацыі — сельскагаспадарчую і юрыдычную? Што Раіса Гарбачова 20 гадоў выкладала ў вышэйшых навучальных установах і абараніла дысертацыю на вучоную ступень кандыдата (па заходніх мерках—доктара) філасофскіх навук? Што дачка Гарбачовых Ірына і яе муж Анатоль — медыкі, бацькі дзвюх дзяцей?

Гэтыя і іншыя звесткі пра Міхаіла Гарбачова і яго блізкіх змяшчае ў ліку іншых звестак даведнік «Хто ёсць хто ў сусветнай палітыцы», які будзе выпушчаны праз некалькі месяцаў на рускай мове ў Маскве. У кнізе — больш за 1 500 персаналій, прысвечаных нашым сучаснікам, пра каго асабліва часта пішуць і гавораць ва ўсіх краінах планеты.

Гутарка ідзе аб больш ці менш вядомых дзяржаўных, грамадскіх, рэлігійных дзеячах, якія пакінулі прыкметны след у сферы міжнародных адносін. Але нават самыя вядомыя людзі аказваюцца для нас нярэдка «знаёмымі незнаёмцамі»: як бы многа мы ні чулі ці чыталі пра іх, усё роўна маглі нешта ўпусціць ці забыць, а ў нечым атрымаць і няпоўную інфармацыю. Удакладніць, папоўніць ці асвяжыць у памяці патрэбныя нам падрабязнасці чыіхсьці біяграфій дапаможа новая галерэя партрэтаў «Хто ёсць хто...»

У дні нядаўняй савецка-амерыканскай сустрэчы ў вярхах Джордж Буш у адным са сваіх выступленняў абыграў назву сяла, дзе нарадзіўся М. С. Гарбачоў,— Прывольнае. Перадаўшы па-англійску значэнне гэтага слова як «прасторнае», «свабоднае», прэзідэнт ЗША дадаў, што яно асацыіруецца цяпер з новымі вятрамі свабоды, якія веюць над Еўропай і ўсёй Зямлёй. Але калі б журналісты захацелі праверыць напісанне рускага тапоніма, якое ўпамянуў Дж. Буш, па Вялікай Савецкай Энцыклапедыі (ВСЭ) апошняга выдання, то дарэмна б пачалі шукаць артыкул пра Гарбачова ў томе 7 («Гоголь — дэбіт»), што выйшаў у 1972 годзе.

Толькі ў 30-м томе ВСЭ (1978 год) — у раздзеле «Дапаўненні» ёсць кароткая даведка пра савецкага кіраўніка. У ёй паведамляецца, што М. С. Гарбачоў нарадзіўся 2 сакавіка 1931 года ў сяле Прывольнае Красногвардзейскага раёна Стаўрапольскага краю (Паўночны Каўказ). У 1946—1950 гадах быў памочнікам камбайнера. У 1955-м скончыў Маскоўскі універсітэт (юрыдычны факультэт), у 1967-м — Стаўрапольскі сельскагаспадарчы інстытут. З 1956 года — на адказных пасадах у ВЛКСМ, з 1966-га — у КПСС, з 1971-га — член ЦК КПСС, з 1978-га — сакратар ЦК КПСС.

У ВСЭ адзначаецца, што М. С. Гарбачоў — выхадзец з сялян. Але не сказана, што яго бацька 40 гадоў прапрацаваў сельскім механізатарам, у гады другой сусветнай вайны быў сапёрам, цяжка параненым на фронце. Што маці Міхаіла — таксама калгасніца. Няма ні радка пра яго жонку, дачку...

Скупыя і старыя звесткі ВСЭ яўна не здольны задаволіць вялікую цікавасць міжнароднай грамадскасці да фігуры савецкага лідэра. Папоўніць гэтыя і падобныя прабелы дазволіць аднатомнік «Хто ёсць хто ў сусветнай палітыцы». Напрыклад, менавіта ён будзе першым у СССР даведнікам, дзе ёсць артыкул пра цяперашняга амерыканскага прэзідэнта. З яго мы даведаемся, што Джордж Буш — патомак багатых амерыканскіх буржуа. Яго маці—наследніца нью-йоркскіх банкіраў Уокераў. Бацька быў партнёрам нью-йоркскай фінансавай фірмы, пазней — сенатарам. Джордж Буш, які нарадзіўся 12 чэрвеня 1924 года ў Мілтане (штат Масачусетс), атрымаў адукацыю эканаміста ў Іельскім універсітэце. Ажаніўся з дачкой кіраўніка выдавецкай карпарацыі «Макол» Барбарай Рыпс. У 50—60-х гадах займаўся нафтавым бізнесам, з 1966-га — толькі палітыкай. Быў кангрэсменам, пастаянным прадстаўніком ЗША пры ААН, кіраўніком амерыканскай місіі сувязі ў Пекіне, дырэктарам ЦРУ і г. д.

Пільную ўвагу мільёнаў людзей на Захадзе і на Усходзе прыцягнуў да сябе новы патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій II (свецкае імя Аляксей Рыдзігер), выбраны на пастол Рускай праваслаўнай царквы 7 чэрвеня 1990 года. Жыццяпіс яе чарговага першаіерарха з'явіцца рана ці позна ў самых розных энцыклапедыях, бібліяграфічных слоўніках і да т. п. Але аўтарам і рэдактарам гэтых выданняў і проста нецярплівым чытачам ён патрэбен не праз гады, а сёння-заўтра.

Вось невялікая даведка пра Алексія. Нарадзіўся 23 лютага 1929 года ў Таліне, сталіцы Эстоніі. У 1949 годзе скончыў сярэднюю школу, у 1953-м — духоўную акадэмію. У пачатку 50-х гадоў быў пра-

(Заканчэнне на 4-й стар.).

